Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

1-5

Цана 25 гр.

№ 1 (11) Вільня, 10 Сакавіка 1935 г Год III

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16 — 2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях“ выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр. Цана абвестак паводле ўмовы.

*З прычыны надыходзячага вялікага нацыянальнага сьвята Беларускага Народу — 17-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25.III. 1918—25.III. 1935 г.—заклікаем усіх беларусаў да бадзёрай і незапужанай працы і змаганьня за свае прыродныя правы, за зьдзейсьненьне сваіх нацыянальных ідэалаў.*



## Нямінучае.

Нават буржуазная прэса прышла да таго вываду, што сучасны сьвет зайшоў у нейкі тупік, з якога выхаду яна ня бачыць.

Насоўваецца нешта грознае і ня ведамае, перад чым, падобна струсу, хаваюць галаву кіраўнікі сучасных дзяржаў і тыя, каму добра цяпер жывецца і хто ня мае ні здольнасьцяў, ні ахвоты да палепшаньня жыцьця людзкай грамады. А здавалася-б, што найвышэйшы час да таго наступіў.

Шматмільённая армія беспрацоўных у аднэй толькі Эўропе, жорсткі і безнадзейны крызыс, разбураючы сусьветную гаспадарку, руіна земляробства, бедната, голад і адначасна вялікая роскаш капіталістаў, ненармальны рост бюракратычнага апарату, заклапатанага тым — у які спосаб выдушыць апошні грош з працоўнага народу, маральная гніль пануючых клясаў і тысячы іншых пачварных зьявішчаў даводзяць, што толькі „навальніца з пярунамі“ прачысьціць паветра і змые з зямлі ўсе бруды.

З другога боку, сучасная палітычная канфігурацыя Эўропы, утвораная пасьля вайны з усімі яе недарэчнасьцямі і крыўдамі, асабліва для нацыянальных меншасьцяў і народаў, пазбаўленых незалежнага дзяржаўнага жыцьця, таксама вымагае грунтоўнае перамены.

Надыходзіць вялікая гадзіна, калі ў сілу гістарычнай неабходнасьці людзі змушаны будуць прыступіць да канчальных разрахункаў... І таму ўвесь сьвет інстыктоўна і ліхарадачна зброіцца, а паасобныя народы дакладна нават ня ведаюць проці каго, іменна, яны выкоўваюць зброю. Толькі збройная барацьба перакроіць Эўропу на больш справядлівых асновах. У мірнае вырашэньне ўсіх супярэчнасьцяў, паўстаўшых на сьвеце, пры існуючым стане рэчаў мы ня верым.

Войны і рэвалюцыі ў сусьветнай гісторыі трэба разглядаць як рэакцыю проці ўстабілізаваных палітычных і грамадзкіх несправядлівасьцяў.

Да гэтага часу яны мелі больш лёкальны характар, ахопліваючы толькі паасобныя дзяржавы.

Цяпер справы прымаюць зусім іншы выгляд.

Даволі таго, што на чале руху, які мае ўсеразбураючыя мэты і які імкнецца перавярнуюць сьвет дагары нагамі, стаіць камінтэрн, запусьціўшы глыбокія карані ўва ўсіх дзяржавах.

У нас няма сумліву, што ягоныя пляны не зьдзейсьняцца.

Сусьветнай рэвалюцыі, кіраванай камуністамі, ня будзе, бо сама ідэя калгасна-прыгоннага ладу збанкрутавала ў Саветах. Але сам факт аслабленьня ўплываў камінтэрну яшчэ ня сьведчыць пра тое, што працоўныя масы пагадзіліся са сваім лёсам.

Сярод іх не спыняецца глухое браджэньне і ніхто ня можа даць нам гваранцыі, што гэтакі стан рэчаў ня прыме форму адкрытага бунту, які павінен быць, у імя дабра тых-жа самых працоўных, каб не дапусьціць да гэгэмоніі камінтэрну, апанаваны сіламі сацыялістычнымі, нацыянальна-сьвядомымі і нацыянальна-дзеючымі.

Пакуль што няведама толькі адно— што пачнецца раней вайна, ці рэвалюцыя, але гэта для нас ня мае вялікшага значэньня.

Мы пераканаць, што нямінучасьць вайны і рэвалюцыі выплывае з сучаснай структуры грамадзянства і што яны павядуць да каранных зьменаў у сацыяльна-эканамічным і палітычным жыцьці ўсіх народаў.

Падчас гэтых падзеяў адзінаю пуцяводнаю ніткаю, якая вывядзе народы на правільны шлях, будзе моцная нацыянальная сьведамасьць і салідарнасьць побач з цьвярозаю рашучасьцю да перабудовы сацыяльна-эканаміч. ладу на больш справядлівых і дасканальных падставах.

Асаблівую патрэбу ў гэтакай пуцяводнай ніткі будуць адчуваць народы слабейшыя, аб чым трэба заўсёды памятаць народу Беларускаму.

Падчас гэтых надыходзячых падзеяў ён павінен адрадзіцца нацыянальна і палітычна, злучыцца ў адну нацыянальную грамаду і ў першую чаргу вытварыць незалежную і аб'яднаную працоўную Беларускую Дзяржаву.

Гэтакая дзяржава ёсьць канешна патрэбнаю для самастойнага і прагрэсыўнага разьвіцьця ўсіх галін нацыянальнага, грамадзкага і сацыяльнага жыцьця Беларускага народу.

Гэта ёсьць нашаю бліжэйшаю мэтаю, зрэалізаваньне каторай адчыніць нашаму народу шырокія гістарычныя пэрспэктывы. І дзеля таго ў сучасную хвіліну вялікая адказнасьць ляжыць на ўсім нашым нацыянальна-сьведамым грамадзянстве, асабліва на кіраўнічых яго вярхох. Ня можна толькі сядзець і чакаць «пераменаў», як гэта многія робяць.

Трэба дзеяць і змагацца, трэба выкоўваць нацыянальную салідарнасьць і сьведамасьць, трэба будзіць у народзе пачуцьцё нацыянальнай гордасьці і чэсьці—толькі ў гэтакі спосаб мы створым кадры сапраўдных нацыянальных байцоў, якія нам так патрэбны будуць у надыходзючай барацьбе за нацыянальнае існаваньне...

*Ф. Акінчыц.*

## Парадоксы буржуазна-капіталістычнага ладу.

Зах. Эўрапэйская прэса абвясьціла вельмі цікаўныя статыстычныя дадзеныя, характэрызуючыя сучасны грамадзкі і эканамічны лад. Гэтак, напрыклад, у 1933 годзе на ўсім сьвеце згінула ад голаду каля 2.400 000 чалавек, а з аднаго страху перад галоднай сьмерцю – пакончыла самагубствам 1.200 000 людзей.

Адначасна з гэтым, у тым-жа 1933 годзе ў мэтах „стабілізацыі цэнаў“ капіталісты зьнішчылі столькі харчавых прадуктаў, што іх хапіла-б на выжыўленьне 70 проц. тых, хто згінуў ад голаду. Між іншым, спалена 568.000 вагонаў збожа, 144.000 вагонаў рыжу, 267 тысяч мяшкоў кавы, 256.000 кілёграмаў цукру. Акрамя таго, выкарыстана на апал 432.000 вагонаў збожа.

Зьнішчана мяса ў кансэрвах 560.000 кілёграмаў і сьвежага мяса 1.450.000 кілёг.

Гэтакім чынам мы бачым, што сьвет гіне ад раз'ядаючых яго недарэчнасьцяў.

Выхад з таго тупіку, у якім ён апынуўся можа быць толькі адзін—гэта каранная перабудова ўсяго грамадзкага і сацыяльна-эканамічнага ладу на сацыялістычных падставах.

Кожны народ у хуткім часе змушаны будзе да гэтага прыступіць і арганізуе яго не па савецкаму шаблёну, а прыстасуецца да лёкальных абставінаў і ступені свайго грамадзкага разьвіцьця.

Паступовыя рэформы сацыяльна-эканамічнага ладу на сацыялістычных падставах у межах паасобных нацыяў, поўнае палітычнае вызваленьне народаў паняволеных і ўстанаўленьне адпаведнага палітычнага рэжыму, пры каторым поўната ўлады была-б у руках працоўнага народу, нацыянальна-сьведамага і арганізаванага—толькі гэта можа прынесьці людзкасьці збаўленьне. А да гэтага часу працоўныя будуць уміраць з голаду, а капіталісты нажываць мільёны, зьніштажаючы харчовыя запасы...

Л. К.

# Веч. памяці АЛЬБІН СТЭПОВІЧ.

18.XII. 1934 г. памёр у Вільні Альбін Стэповіч, выдатны сябра Беларускага Нац.-Сацыялістычнага Актыву, былы пасол на Сойм (1928 — 1930 г.), пахаваны 19.XII. 1934 г. на Горцы Літэратараў на могілках Роса ў Вільні.

А. Стэповіч радзіўся 18.III. 1894 г. у сялянскай сям'і ў вёсцы Барані, Сьвянцянскага павету на Віленшчыне. Пасьля пачаткавае асьветы ў Жукойнях і сярэдняе ў Вільні ў Музычнай Школе ім. Монтвіла, А. Стэповіч вучыўся ў Казанскім Унівэрсытэце, а з 1921 годзе ў Віленскім, у якім пакінуў асьвету, будучы выбраным у Сойм па сьпіску Белар. Хрысьц. Дэмакратыі. Нейкі час быў вучыцелям сьпеву ў Віленскай Белар. Гімназіі.

З Беларускай Хрысьц. Дэмакратыі Альбін Стэповіч выступіў у 1931 годзе, дзякуючы сваім радыкальным поглядам і вялікаму індывідуалізму.

Ад таго часу ён шчыра пачаў шукаць ідэолёгіі ў якой-бы зьмясьцілася ягоная патрыётычная і радыкальная душа.

На паўсталых дзякуючы ягонай ініцыятыве і арганізацыі пятнічных рэфэратах дыскутаваліся розныя палітычныя тэмы, розныя грамадзка-сацыяльныя ідэі і навукі. Тут у А. Стэповіча выяўляўся з аднаго боку вялікі патрыётызм, а з другога — сацыялістычны радыкалізм.



Альбін Стэповіч.
(* 18.III. 1894 г.—† 18.XII. 1934 г.).

Ані рознага толку міжнародныя сацыялізмы, ані існуючыя беларускія буржуазныя партыі не маглі ягонага вялікага патрыётызму пагадзіць з ягоным сацыялізмам. Дык і ня дзіва, што Альбін Стэповіч першым з віленскіх беларусаў прылучыўся да Беларускай Нац.-Сацыялістычнай групы, а пасьля стаў сябром арганізацыйнай камісіі Беларускага Нац.- Сацыялістычнага Актыву.

Ягоная патрыётычная і сацыялістычная беларуская душа знайшла поўнае задавальненьне ў Нац.-Сацыялістычнай ідэолёгіі.

Альбін Стэповіч меў шырокія таварыскія зносіны як з усім беларускім так і з польскім не шовіністычным грамадзянствам. „Амаль усё віленскае беларускае грамадзянства ёсьць загіпнатызаванае камуністычна-жыдоўскім страхам перад Нац.-Сацыялізмам, дзеля гэтага тут трэба падыходзіць памалу і асьцярожна“ — казаў ён няраз.

З гэтай прычыны ён, зусім слушна, не выяўляў бяз патрэбы, што ёсьць сябром Белар. Нац.-Сацыялістаў, уважаючы, што гэткім чынам у дыскусыйных гутарках куды будзе карысьней бараніць гэтай ідэолёгіі перад слухачамі, адурманенымі камуністычна-жыдоўскай і масонскай псыхозай.

Працуючы апошнім часам выключна як журналіст Альбін Стэповіч палажыў вялікую заслугу ў дадатнім інфармаваньні аб Белар. Нац.-Сацыялізме, як у польскай так і ў замежнай прэсе.

У „Новым Шляху“ падпісваўся мянюшкай Ул. Загорскі. Браў удзел у апрацоўцы „Абавязкаў Беларускага Нац.-Сацыяліста“.

Сьмерць забрала А. Стэповіча ў часе распачынаньня ім найкарысьнейшай для беларускай нацыі працы.

Адышоў ад нас без пары, дарагі таварыш і калега. Змусіла цябе да гэтага бязлітасная прырода. Палажыла яна на цябе без пары свае жыццёва-сьмяротныя рукі і... забрала. Але не забрала і не забярэ яна нашай супольнай ідэі. Бо ідэя не баіцца сьмерці. Яна не сьмяротная.

Сьмерць змацоўвае ідэю, лучыць жывых з мёртвымі. З таяей сьмерцяй, дарагі таварыш, мы зацягнулі абавязак і перад табой, абавязак пераможнай барацьбы за волю Беларускай Нацыі і дабрабыт яе працоўных сяброў. У гэтым змаганьні мы ня будзем баяцца ніякіх злыбед, ні мукаў, ні сьмерці. Гэта кажам мы табе, таварыш, на вечнае разьвітаньне і просім сілу, якая цябе забрала без пары, каб яна ня прыходзіла да нас тады, калі мы будзем у мяккім ложу сямейнага дому, але каб пазволіла нам памерці ў барацьбе за вызваленьне гаротнага беларускага народу.

Ул. Казлоўскі.

## Нямецкі Нац.-Сацыялізм і беларусы.

*(Гэта ёсьць канцовая часьць рэфэрату А. Стэповіча (конклюзыя), прачытанага ім на „пятнічніку“ дня 25.V. 1934 г. на тэму „Палітычная праграма нямецкіх Нац.-Сацыялістаў“. Рэфэрат быў напісаны і аддадзены нам у свой час самім А. Стэповічам.—Рэдакцыя).*

Нашае беларускае становішча да палітыкі Гітлера павінна быць зусім інакшае, чымся становішча народаў, што маюць уласную дзяржаву. Беларускае становішча—гэта перадусім становішча народу падбітага, уцісьненага, які ад кожнай зьмены ня мае чаго траціць. А хто ня мае чаго траціць ад зьменаў — можа нешта выграць. Нават прамовы і пляны Розэнбэрга і мэморыял Гугэнбэрга ня могуць беларусаў непакоіць. Беларусы маюць шмат больш элементарных уласных клопатаў, каб непакоіцца „гітлероўскай трывогай“ нашых дзяржаўных суседзяў.

А трэба ведаць, што гітлерызм памалявалі на чорна іменна напужаныя нашыя дзяржаўныя суседзі. Іхная паніка і іхная літэратура аб гітлерызьме заражае часьць нашага грамадзянства пагардай да ідэі, ад якой і мы маем шмат чаго навучыцца.

Гітлерызм зрадзіўся на грунце адчуваньня вялікай крыўды і несправядлівасьці з боку пераможцаў у сусьветнай вайне. Немец, які не хацеў і ня мог браць адказнасьці за ўрадава імпэрыялістычны курс, глядзеў бязрадна на ганебныя варункі Вэрсальскага міру. Перадавая нацыя, што жыла высокай культурай і багацьцем, даведзена была да жабрачай торбы. Сацыялізм „міжнародны“ які ўдзелам сваім у вайне грунтоўна выявіў банкроцтва ідэі міжнароднай салідарнасьці працоўных — гэты сацыялізм цяпер паглыбляў толькі руіну і дапусьціў да гаспадаркі ў Нямеччыне сыноў „выбранага народу“, якіх этыка, мэтады, вызыск і пагарда да цяжкай фізычнай працы ведамы ўсяму сьвету. Народ, што капіталістычны лад і яго ворага — марксызм патрапіў аднолькава выкарыстоўваць як здабываньне ўлады — перабраў меру.

У Немцаў збудзілася сіла, што ў новых часох зьяўляецца найгалаўнейшым дзейнікам салідарнасьці і магутнасьці—гэта нацыяналізм у сынтэзе з сацыялізмам, як процiўстаўленьне марксызму. Салідарнасьць нацыі абражанай, у спалучэньні з найбольш рэальнымі магчымасьцямі сацыялізму, заўладаў нацыяй. Тое, што, здавалася, ня лучыцца як агонь з вадой, Гітлер зарызыкаваў спалучыць і ня толькі ня быў абсьмеяны, але быў прызнаны праз усю перадавую, культурную нямецкую нацыю і дапушчаны да ўлады.

Гітлерызм ня ёсьць сацыялізмам — скажуць нам. Але-ж тое самае гавораць кожныя сацыялісты аб сацыялізме іншага толку.

Справа не ў назове, але ў зьмесьце. Нямецкі нацыянал-сацыялізм аб'яднаў нацыю, стварыў сілу, якая гоне вон усялякіх гіенаў і напаўняе іх трывогай, што награбленае трэба будзе аддаць. Нацыянальны сацыялізм з нацыі паднавольнай, аграбленай і прыніжанай робіць ізноў сільную нацыю і небясьпечную тым, хто ў адносінах да яе ня мае чыстага сумленьня.

Вось чаму з пункту гледжаньня інтарэсаў нямецкай нацыі гітлерызм ня толькі будзе апраўданы, але пяройдзе ў гісторыю, як сіла, што адрадзіла Нямеччыну.

Бязумоўна гітлерызм ня ёсьць для беларусаў таварам на экспорт. Але ёсьць у нацыянальным сацыялізме тыя элемэнты, якія патрэбныя кожнай падбітай нацыі.

Нацыянальны сацыялізм беларускі, калі-б ён разьвіўся—мусіў-бы быць прытасаваны для нацыі сялянскай, больш радыкальны і бязумоўна апазыцыйны да сучаснай палітыкі на Зах. Беларусі.

Зьяўляемся сьведкамі сьмерці дэмакратызму, дэмаралізацыі і банкруцтва II і III інтэрнацыяналу. На іх месца прыходзіць нацыяналізм спалучаны з сацыялізмам, як натуральны дзейнік жыцьця, разьвіцьця і змаганьня за правы нацыі. Дзяржавы, што паўсталі па вялікай вайне, зрадзіліся з нацыяналізму, які зьяўляецца часта адзіным аружжам падбітых.

Для беларусаў вывады з гэтых бязспорных фактаў напрашываюцца самі сабою.

Вільня, 25 траўня 1934 г.

---

## Беларусы ў Польшчы.

Справа на Зах. беларускіх землях улажылася ў такі спосаб, што шмат якія прычыны (пра каторыя разводзіць тут ня будзем) стаяць на перашкодзе да пературэньня Беларускага народу ў моцную і скансалідаваную нацыю. Значная частка беларускай этнічнай масы падлягае процэсу „распыленьня“, засіляючы іншыя народы і аслабляючы свой уласны.

На нашае шчасьце процэс гэты ўстрымліваецца і слабее, дзякуючы пашырэньню беларускай нацыянальнай сьведамасьці, запусьціўшай карані ў шырокіх народных масах.

Аднак, хвароба гэтая робіць сваё і з ёю мы мусім сур'ёзна лічыцца.

На чале расклэдовай акцыі стаяць арганізаваныя групы, каторым залежыць на тым, каб захапіць пад свае ўплывы аснаўную масу беларускага народу, слаба выробленую ў нацыянальным і грамадзка-палітычным кірунку.

Ад даўжэйшага часу каля гэтай масы вядзецца барацьба, каторая часта прымае жорсткі і нават непрызвоіты характар.

Перадусім, з прычыны пляновай акцыі маскоўскага камінтэрну ад Беларускага народу адкалваецца тое грамадзянства, каторае, як некаліcь выславіўся б. старшыня Грамады Б. Тарашкевіч, „ідэалы сусьветнай рэвалюцыі ставіць вышэй ідэалаў нацыянальна-беларускіх“. Вось гэтакая вера ў камуні-

стычную рэвалюцыю, вера, перакодзячая ў тупы і бяскрытычны фанатызм, і зьяўляецца галоўным нашым няшчасьцем. Каб ня гэта — дык мы за апошніх 10 год змаглі-б пабудаваць моцныя падставы беларускай грамадзкасьці, якая нават у сучасную хвіліну разьвівалася-б таксама пасьпешна, як яна разьвіваецца, напрыклад, у украінцаў і літоўцаў. Стаўку на сусьветную рэвалюцыю пасьля палітычных пераменаў, якія здарыліся ў цэнтры Эўропы, пасьля кананьня камуністычнага руху ў Кітаі і пасьля пляновага апанаваньня палітычнай сытуацыі на Далёкім Усходзе праз Японію — можна лічыць прайгранаю канчальна.

Ня гледзячы на ўсё гэта, мы мусім не запамінаць, што бальшавіцкая хвароба аднак-жа запусьціла ў нас глыбокія карані.

Захварэўшыя на яе ніяк ня могуць зразумець, што напрыклад, ідэалы нацыянальныя ў постаці палітычнай незалежнасьці, зьяўляюцца элементарнымі і неабходнымі для кожнага народу, каторы ня хоча, каб над ім панавалі чужынцы.

Ня хочуць зразумець і таго, што незалежніцкія ідэалы не стаяць у супярэчнасьці з ідэаламі „сацыяльнай справядлівасьці" і што паміж імі павінна быць гармонія.

Я мушу дбаць пра палепшаньне лёсу працоўнага народу, але я, будучы беларусам, павінен парупіцца не пра кітайцаў, ці жыдоў, а ў першую чаргу пра той народ, з якога сам паходжу. Камуністычная частка нашага грамадзянства, пераняўшыся інтэрнацыянальнаю ідэолёгіяю, далёка адсунулася ад беларускай нацыянальнай справы. Нацыянальная ідэолёгія, уліваючая маральныя сілы ў кожны народ, замяняецца ў камуністаў дэмагогіяю і пустымі фразамі з марксоўскага талмуду. Народ пад уплывам камуністычнай агітацыі траціць свае нацыянальныя і маральныя вартасьці і ўсё мацней падпадае пад кіраўніцтва жыдоў, каторыя выкарыстоўваюць яго ў сваіх расавых мэтах.

Здараецца вельмі часта й так, што ўчарашнія камуністы раптоўна мяняюць фронт і перакідаюцца на полёнофільскую службу. Гэта ўсё толькі лішні раз даводзіць — наскольні слаба разьвіта ў гэтакага сорту людзей нацыянальная сьведамасьць і пачуцьцё нацыянальнай гордасьці.

Бадай ці ненайгоршым гатункам людзей ёсьць сучасныя полёнофілы, каторыя наймаюцца для разбурэньня беларускай грамадзкасьці і каторыя за сваю лёкайскую службу атрымліваюць матар'яльныя карысьці. Гэтыя людзі сваім грамадзкім становішчам і працаю выразна адмяжоўваюцца ад беларускіх нацыянальных ідэалаў.

Яны прапагуюць ідэю кампрамісаў, але гэтыя „кампрамісы" так лоўка выкарыстоўваюцца другой стараной, што нават, каб яны й хацелі зрабіць нешта карыснае для беларускай справы, ніколі гэтага ня зробяць і застануцца ў ролі звычайных прыслужнікаў у полёнізацыйнай акцыі нашага краю.

Людзі гэтыя наагул не заслугоўваюць на ўвагу ўжо хаця-ж-бы з тае прычыны, што да нічога карыснага яны ня здольны.

Ступень іхняй грамадзкай бязвартасьці вымерваецца ступеняй іхняй прагавітасьці да нажывы.

У гісторыі ўсіх народаў мы заўсёды знаходзім такіх людзей, каторыя служаць інтарэсам пануючай нацыі з яўнаю шкодаю для сваёй уласнай, з якой паходзяць самі. Адсутнасьць моцнай нацыянальнай сьведамасьці прыводзіць і да таго, што многія з беларусаў, асабліва па мястэчках і гарадох, залічаюць сябе да расейцаў.

Да гэтага, між іншым, прычыняецца шырокая агітацыя расейскіх эмігрантаў, якіх украінцы выцясьняюць са сваіх земляў і якія ўбачылі ў нашым народзе падатны аб'ект для сваіх русыфікатарскіх мэтаў. Пэўныя „posunięcia" адпаведных чыньнікаў таксама шмат прычыняюцца да пашырэньня расейскіх уплываў.

Тут наглядаецца тое самае, што наглядалася ў гісторыі Расеі: „divide et impere" („дзялі і пануй"). Абыходзім на гэтым мейсцы тую частку прыродных беларусаў—каталікоў, каторая, будучы пад кіраўніцтвам польскіх ксяндзоў, залічае сябе да народу, з якім нічога супольнага, акрамя рэлігіі, ня мае.

Наскольні ў гэтым зьявішчы вінавата духавенства—можна судзіць з тае падтрымліваемай ім лёгічнай недарэчнасьці, якая месьціцца ў распаўсюджаным у нас тэрміне „польская вера"... Пры ўсёй, аднак, пстракаціне з нацыянальнага пункту гледжаньня, якая наглядаецца сярод нашага народу, — кідаецца ў вочы адна вельмі цікавая і дадатняя рэч.

Апошняя перапісь, ня гледзячы на ўсе яе „кавалы", паказала, што звыш $1^1/_2$ мільёнаў людзей мела адвагу назваць сябе беларусамі. Гэты факт сьведчыць пра многае. Перадусім, мы маем аснаўное ядро народу, каторае выразна і адкрыта, бяз усякіх хістаньняў — залічыла сябе да народу Беларускага, мінаючы расейшчыну, беларуска-польскую „нацыю", створаную ў Вільні і іншыя адмены.

Паўтара мільёнаў сьмелых і нацыянальна-стойкіх беларусаў—гэта ёсьць наш нацыянальны актыў, каторы павінен разрасьціся і грамадзка скансалідавацца. Над гэтаю масаю варта папрацаваць, як у нацыянальна-палітычным кірунку, так і культурна-грамадзкім.

У меру паглыбленьня нац.-сьведамасьці гэтага ядра—мэханічна будуць нацыянальна аздараўляцца і тыя часткі нашага народу, каторыя пакуль што хістаюцца.

Беларускае арганізаванае грамадзянства мае перад сабою вялікія нацыянальныя заданьні, якіх яно не дацэньвае, і трэба толькі, каб яно ўсьведаміла гэтыя заданьні і, падзяліўшы ролі, прыступіла да энэргічнай працы.

Д. Полацкі.

## Meksyk, Biełaruś i čužacki kler.

Niaraz pisałasia ŭ roznych hazetach ab „praśledavańni katalicyzmu“ ŭ Meksyku, ale mała dzie havaryłasia ab pryčynach, jakija vyklikali zmahańnie Meksykanskaha ŭradu z katalickim duchavienstvam, a lepš kažučy, z častkaj jaho. Kryk ab „praśledavańni“ relihii ŭ Meksyku, hałošany katalickimi i bliskimi im čyńnikami śviedama nie vyjaŭlae pryčyn, jakija davali da enerhičnaj baraćby z častkaj katalickaha duchavienstva ŭ Meksyku.

Baraćba ciapierašniaha Meksykanskaha ŭradu z peŭnaj častkaj katalickaha duchavienstva, heta jość abaronnaje zmahańnie z rasova čužackim upłyvam. Pryčyny hetaj baraćby majuć charaktar nia čysta relihijny, a peradusim rasavy i klasavy. Heta jość baraćba aŭtachtonaŭ Meksyku z patomkami kališnich hišpanskich najeźnikaŭ; heta jość parachunki adviečnych haspadaroŭ Meksyku z „biełym djabłami“, jakija kaliści tak haniebna i źvierska vyniščali staruju kulturu staradaŭnych-Amerykanskich narodaŭ i pobač z hišpanska katalickim kryžam niaśli palityčnuju niavolu.

Jak viedama duchoŭniki amal kožnaje relihii, a pieradusim katalickaj, u svaich imknieńniach u praktycy aprača „niabiesnych metaŭ“ majuć i čysta ziemskija palityčnyja mety. Prykład: Vatykanskaja dziaržava, kryžaki, polski kaścioł u Biełarusi i h. p. Tak i patomki daŭnych hišpanskich „kulturtrehieraŭ“ prypomačy kaściola i inšych blizkich jamu čyńnikaŭ chacieli-b až da siańnia być kirujučymi dziejnikami ŭ Meksyku. Ale ciapier užo hetaje ich imknieńnie akančalna załamałasia śviedamaściu adviečnych žycharoŭ Meksyku, naležačych da čyrvonaj rasy.

Nasielnictva Meksyku ciapier pradstaŭlajecca hetak: biełych (pieravažna patomkaŭ hišpanskich prybyšaŭ) 2 miljonaŭ; čyrvonaskurych amerykanskich indziejcaŭ 7 miljonaŭ i Metysaŭ kala 7 miljonaŭ. Hetyja apošnija ciapier majuć tam uładu.

Aporaj katalicyzmu ŭ Meksyku jość biełaja rasa. Usio vyšejšaje duchavienstva amal vyklučna z biełych, tady jak nižejšaje papaŭniajecca i čyrvonaj rasaj.

I voś charakterna, što amal usio katalickaje duchavienstva čyrvonaj rasy padtrymoŭvaje ciapierašni meksykanski ŭrad i salidaryzujecca pacichu z im, kali jon vyhaniaje biełych biskupaŭ i ksiandzoŭ. Usio znoŭ katalickaje duchavienstva biełaj rasy viadzie zaŭziatuju baraćbu z Meksykanskim uradam, jaki jość u rukach Metysaŭ, adviečnych žycharoŭ Meksyku. Hety ŭrad u bolšaści katalickaha duchavienstva bačyć svaich rasovych vorahaŭ i kaža, što ŭsich čyrvonaskurych meksykancaŭ treba pieradusim vyzvalić z niavoli i „obskurantyzmu“, kudy jany papali pad upłyvam katalicyzmu.

Hetak vyhladaje baraćba Meksykanskaha ŭradu z katalickim duchavienstvam.

Mimavoli nasoŭvajecca analohija adnosinaŭ katalickaha duchavienstva ŭ Meksyku i takoha-ž duchavienstva na Biełarusi. J tut u nas čužoje biełarusam polskaje i rasiejskaje duchavienstva adjomna adnosicca da biełaruskaj kultury, uvažaje biełaruskaść za štoś horšaje, toleruje „tutejšaść“, „ruskaść“ i „polskaść“ niaśviedamaha ciomnaha biełaruskaha sielanina.

## Ч ы н.

З жалем і плачам, ў роспачы, зьдзеку,
Ў бездне няволі, прымусе...
Нельга-жа жыці так чалавеку! —
Чын!—ёсьць твой кліч, беларусе.

Йдзі супраць цемры, хітрай аблуды,
Супраць маны панаваньня.
Кліч хай імкнецца рэхам усюды:
Чын!—камандзірам змаганьня.

Сьмейся са сьмерці, болі і страху.
Сьмела ідзі бяз хістаньня —
Рыцарам волі нельга мець жаху —
Чын кліча ўсіх да змаганьня.

Сэрцаў пажарам край свой абнімем,
Ў душах бадзёрасьць ўзьнясецца,
Воляй няўхільнай сьцяг свой паднімем.
Вольна ён нам разаўецца.

Ул. Казлоўшчык.

Na čale katalickaj i pravasłaŭnaj akcyi stajać čužyja biełarusam polskija i rasiejskija biskupy — „kulturtrehiery“ „niakulturnaj Biełarusi“. Jany svajej „akcyjaj“ davali da taho, što biełaruski ciomny sielanin vieryć, što Chrystos havaryŭ papolski i byŭ „polskim“, što rymski papa jość „polski“ i što malicca da Boha inakš nia možna jak tolki „papolski“. Pišučamu hetyja słovy adna sialanka padčas niamieckaje akupacyi raskazvała „cikavaje zdareńnie“, što bačyła jak u kaściele niamiecki žaŭnier maliŭsia i prystupaŭ da kamunii i jana dumajučy, što maje prad saboju „praŭdzivaha katalika“, źviarnułasia da jaho papolsku ŭ niejkaj spravie, kali jon vyšaŭ z kaścioła. I... „što za prafanacyja“ — narakała kabieta, „hety žaŭnier nie razumieŭ papolsku“. Nijakija dovady nie mahli pierakanać kabietu, što možna i paniamiecku malicca da Boha.

Voś płady pracy čužych duchonikaŭ — „kulturtrehieraŭ“.

Ciapier śviedamaje biełaruskaje hramadzianstva viadzie baraćbu z čužym klεram.

Hetaja baraćba viadziecca ŭ nadta drennych abstavinach, bo kler poŭnaściu karystaje z apieki „silnych hetaha śvietu“. Z hetaj baraćboj salidaryzujecca ŭsio biełaruskaje śviedamaje duchavienstva.

Ciapier siła na staranie čužoha duchavienstva. Ale što budzie kali ździejśniacca ideały Biełaruskaha Narodu, a nastroj duchavienstva da biełarusaŭ nia źmienicca? Ci tady ŭ nas nastanuć meksykanskija adnosiny, ci jašče horšyja?— Musić być horšyja, bo-ž rola čužoha duchavienstva na Biełarusi, z punktu hledžańnia intaresaŭ Biełaruskaj Nacyi, kudy bolš niesympatyčnaja, čymsia rola rasava čužoha kleru ŭ Meksyku.

Viedama padniaŭsia-b tady kryk, što praśledvajecca duchavienstva i relihija. Ale kryk taki byŭ-by fałšyvym, bo heta nie praśledavańnie, ale abaronnaja baraćba nacyi za svajo žyćcio. U takoj baraćbie nichto nia ličycca z vorahami chacia-b jany byli i „słuhami Božymi“.

Hetych paru słoŭ dajom „našym“ biskupam katalickim i pravasłaŭnym na razvahu, kab jany byli bolš dalokabačnymi, kab u budučyni eventualna nia byli zaskočanymi i nia zvalivali svajej viny na tych, chto baronicca.

Ul. K.

# Хвароба, якую пераможам.

Ні для каго ня можа быць сэкрэтам, што камуністычныя ўплывы на Зах. Беларускіх землях, ня гледзючы на тыпова сялянскі характар нашага краю, вельмі значныя.

У раёнах, захопленых маскоўскімі агентамі, усякая беларуская культурная і нацыянальная праца або зусім не вядзецца, або знаходзіцца ў стадыі кананьня.

Польскія шовіністычныя колы, задаволеныя гэтакім заняпадам беларушчыны, ня могуць нацешыцца з сваіх „бліскучых“ пасьпехаў у пастаці пашырэньня „стшэльцаў“, „кракусаў“, розных „кулэк“ і іншых арганізацыяў. Ня меншае задаваленьне выклікае ў іх развал, або ўзрыў беларускай арганізацыі, (да чаго яны вельмі часта прычыняюцца) і той вонкавы супакой, каторы як быццам пануе на вёсцы.

Але польскія шовіністы забываюць, што ў замарожаньні беларускага руху зацікаўлены ня толькі яны і што пад пакрыйкаю вонкавага супакою вядзецца няўпынная „ўсьведамляючая“ праца камуністаў, у выніку чаго нават самыя пэўныя польскія арганізацыі ў адпаведны мамэнт могуць апынуцца там, дзе гэта будзе патрэбна камінтэрну... З нашага пункту гледжаньня, тыя арганізацыі, якія складаюцца пераважна з беларусаў і пакладаюць вялікія і адначасна безразультатныя высілкі ў бок полёнізацыі, зьяўляюцца шкоднымі, а гэта з тае прычыны, што яны затрымліваюць сярод нашага народу нармальнае разьвіцьцё беларускай нацыянальнай сьведамасьці.

Бо толькі моцная нацыянальная сьведамасьць у народзе сьцеражэ яго ад бальшавіцкага мікробу. Небясьпечнаю для нас акалічнасьцю зьяўляецца яшчэ тое, што значная частка беларускай інтэлігенцыі, калі не выяўляе выразных сымпатыяў у бок бальшавізму, то й не выступае ў спосаб рашучы проці пашырэньня іхніх уплываў.

Тое, што здарылася з некаторымі беларусамі, выехаўшымі ў Саветы — пачынаючы ад Ластоўскага і канчаючы на Б. Тарашкевічу, — здаецца павінна было-б навесьці яе на правільны шлях...

Але што найбольш зьяўляецца дзіўным —дык гэта спачуваньне камуністычнай акцыі з боку багацейшага беларускага грамадзянства, на што мы маем яскравыя доказы.

Праўда, значную частку гэтай „публікі“ складаюць ні да чога няздольныя грамадзкія „нікудышнікі“, якіх выкарыстоўваюць камуністы як „гарматняе мяса“.

Трэба памятаць, што беларуская камунізуючая інтэлігенцыя ніколі ня была і ніколі ня будзе паўнапраўным сябром у камуністычнай партыі. Яна заўсёды была толькі сьляпым снарадзьдзем у руках камуністычных цэнтраў, што складаюцца пераважна з жыдоў.

Але гэтакія людзі, страціўшыя пачуцьцё нацыянальнага і нават асабістага гонару, ня здольны ўжо зьвярнуць увагу на падобную „драбніцу“.

Чым-жа жывуць усе гэтыя камунізуючыя сілы, пачынаючы ад распрапагандаваных вясковых хлапцоў і канчаючы на віленскіх інтэлігентах? Усе яны пакладаюць вялікую надзею на сусьветную рэвалюцыю, разумеючы яе кожны пасвойму, а пакульшто дружна і плянова стараюцца разбурваць усякія праявы белар. нацыянальнага жыцьця.

Гэты „пажар“, які ніяк ня можа разгарэцца, проста паралізуе ўсю творчую энэргію значнай часткі беларускага грамадзянства, якое чакае „перамен“ і лічыць непатрэбным у сучасную хвіліну прыступаць да позытыўнай працы.

Тут „хоць кол на галаве чашы“, а гэткага фанатыка не пераканаеш. У выніку падобнага стану рэчаў у раёнах, заражаных камуністычным мікробам, — поўны застой у беларускай працы, нічоганяробства, полёнізацыя з яе танцулькамі і „кракусамі“, дзікасьць, хуліганства і г. п. зьявішчы, каторыя запраўды пракладаюць дарогу да бальшавіцкай рэвалюцыі. Упартасьць, энэргія і нейкі дзікі фанатызм камунізуючых беларусаў у справе разбурэньня ўсяго беларускага, запраўды, заслугоўвае на ўвагу.

Ня будзем тут затрымлівацца на прычынах гэтакага сумнага зьявішча, якое распаўсюджана на нашых землях, бо гэта завяло-б нас да канфіскаты часапісу...

Адкажам лепш на пытаньне — што пры падобных абставінах павінен рабіць беларускі нацыянальны актыў, а ў першую чаргу беларускія нацыянал-сацыялісты. Наш край уяўляе з сябе неаброблену глебу, вымагаючую колёсальнай працы ў нацыянальным, палітычна-грамадзкім, культурным і гаспадарчым кірунках. Да гэтай працы трэба прыступіць неадкладна, не чакаючы на „сусьветны пажар“, ні на іншыя падзеі.

Перадусім, на ідэолёгічным фронце трэба распачаць вострую барацьбу з тымі рэакцыйнымі сіламі, каторыя затрымліваюць наш нацыянальны поступ, а ў першую чаргу з камуністамі, вырываючы масы з пад іхніх уплываў і перацягваючы іх на нацыянальны адраджэнскі шлях. Трэба, з другога боку, адмяжавацца і ад тых слабавольных і грамадзкі худасочных элемэнтаў каторыя за крошкі з панскага стала адмаўляюцца ад беларускіх нацыянальных ідэалаў.

У сваёй грамадзкай працы мы павінны ўліваць у душу нашага народу веру ў лепшую будучыню, якая яго чакае ў тым выпадку, калі ён будзе дзеяць і змагацца.

Нічога дарма не даецца, а тым балей не даецца незалежнае палітычнае жыцьцё...

Вера ратуе паасобных людзей і гэтая самая вера ў свае нацыянальныя ідэалы можа ўратаваць цэлыя народы.

Наш абавязак — падтрымліваць гэтую веру і ня даць ёй заглохнуць.

Але аднэй палітычнай барацьбы мала. Тысячы іншых, культурных, гаспадарчых,

гандлёвых і г. п. спраў чакаюць на грамадзкіх работнікаў, каторыя пакуль што не варушацца.

Мы верым, што гэтыя выканаўцы знойдуцца і, фактычна, яны ўжо ёсьць.

Патрэбна толькі, каб яны ўзмоцнілі сваю грамадзкую энэргію і каб адчувалі ідэёвую нацыянальную сувязь, якая нас усіх павінна лучыць.

Тады, калі ўсе жывыя беларускія сілы заварушацца, наша грамадзянства пазбудзецца бальшавіцкага „дурману“, на які захварэла.

Тады толькі мы будзем у сілах дамагацца сабе таго, што нам прыродным правам належыцца. С. Булат.

*Найпрыгажэйшая сьмерць гэта —сьмерць у барацьбе за правы свайго народу. Найганорнейшая кара гэта — кара за адраджэнска-вызвольную працу для свайго народу.*

## Саара і марксызм.

На нашых вачох адбылася гістарычная падзея, якая ёсьць наглядным прыкладам памылковасьці марксоўскай тэорыі аб гістарычным матэр'ялізьме. Паводле гэтай тэорыі гістарычныя падзеі ёсьць вынікам адпаведных эканамічных абставінаў.

Гэтая наглядна-супярэчная з марксоўскай тэорыяй падзея адбылася ў Саары, невялічкай, але вельмі багатай частцы нямецкай зямлі, якая па вайне перайшла на 15 гадоў да Францыі, як залог за накіненыя немцам абавязкі. Палітычна Саара гэтыя 15 гадоў была пад уладаю Лігі Нацыяў але ўсе даходы з капальняў каменнага вугля і розных фабрыкаў забірала Францыя, як зварот коштаў за зьнішчэньне падчас вайны францускай тэрыторыі.

Пасьля 15 гадоў г. зн. 13.І. 1935 году адбылася ў Саары галасаваньне да каго належаць далей. І вось гэтае галасаваньне выявіла, што нацыянальная салідарнасьць і патрыётызм, аплёваныя марксыстамі, ёсьць натуральнай прыроднай жыцьцёвай сілай, якой немагчыма супроцьстаўляць штучную няпрыродную „міжнародную салідарнасьць працоўных“.

Грамадзяне Саары павінны былі адказаць на адно з наступных пытаньняў: 1) Ці хоцуць прылучыцца да Францыі, 2) ці быць надалей пад апекай Лігі Нацыяў, 3) ці вярнуцца да Нямеччыны.

З пункту гледжаньня гістарычнага матэр'ялізму грамадзяне Саары павінны былі галасаваць так, як ім найкарысьней было-б з боку матар'яльнага, тым часам яны галасавалі так як ім матар'яльна найгорш.

Найлепш было-бы матар'яльна грамадзянам Саары застацца надалей пад уладай Лігі Нацыяў. Гэта было-бы з пункту гледжаньня матар'яльнага вымроеным палажэньнем: выгадны шырокі гандаль з Францыяй і Нямеччынай, зусім малыя падаткі, ня трэба ўтрымоўваць войска, адсутнасьць безработицы, матар'яльны дабрабыт і поўная свабода асабістых переконаньняў і шмат іншага. А тымчасам амаль усе грамадзяне Саары галасавалі за паварот да Нямеччыны, дзе ёсьць 4 мільёны безработных, дзе даволі вялікія падаткі, дзе замкнёны рот камуністычным „абаронцам працоўных“, дзе кіруе дзяржавай Гітлер—пугала гэтых „абаронцаў“.

Галасавала грамадзянства прамысловае Саары, якое ў аграмаднай большасьці складаецца з рабоча-фабрычнага пролетарыяту, пролетарыяту, які дзесяткамі гадоў быў пад марксоўска-камуністычнай агітацыяй. І вось у практыцы прыродная нацыянальная салідарнасьць і яе жыцьцёвы кліч: Бацькаўшчына — заглушылі ўсю шматгадовую штучную камуністычную работу і дала наглядны прыклад памылковасьці марксоўскай тэорыі.

Саарскія падзеі выявілі ня толькі пабеду немцаў, але яны выявілі і пабеду нацыянальнай ідэолёгіі над марксоўскай „навукай“.

Наглядны гэты гістарычны прыклад нам беларусам трэба ўзяць пад увагу і ўдарніцка приступіць да аздараўленьня беларускіх масаў ад камуністычнага дурману, раз'ядаючага нашую нацыянальную салідарнасьць і змушаючага беларускія масы руліцца пра сусьветны пролетарыят, аслабляючы гэтым іх змаганьне за прыродныя і блізкія ім нацыянальныя мэты, у якіх вырашаюцца і сацыяльныя імкненьні беларускага пролетарыяту.

К.

*Супроць капіталізму — свой сацыялізм. Супроць чужога нацыяналізму— свой нацыяналізм.*

*Хто чытае „Новы Шлях“ не аплаціўшы падпіскі, той выкарыстоўвае чужую працу і выяўляе сваю грамадзкую нявырабленасьць.*

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія
Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1—3.